# Бацькаўшчына



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 45 (580) — Нядзеля, 12-га лістапада 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Ноты й бомбы

«На дзень лады — на век бяды» — кажа беларуская прыказка. Тут мы маем на думцы разрэклямаваны XXII зьезд КПСС, які прынёс нам нечаканасьці, аб якіх мы гаварылі ў папярэднім артыкуле. Калі мы гаворым «нечаканасьці», дык проста мы маем на ўвазе праграму зьезду, ў якой не прадбачвалася дэсталінізацыі з эксмісіяй мумії Сталіна з маўзалею, і жорсткага змаганьня з гэтак званай «антыпартыйнай групай», якая ўжо ў 1957 годзе была зьліквідаваная. Навошта гэтая бурлеска была патрэбная Хрушчову й супалцы — вось праблема, якая цікавіць нармальнага чалавека й кіраўнікоў некаторых заходніх дзяржаваў.

І вось тут на маргінэсе актуальнай справы трэба зрабіць дыгрэсію. У сусьветнай думцы, а перш за ўсё ў апініі славянскіх народаў ніколі недаацэньвалася роля здольных журналістых, якія ствараюць гэтак званую «грамадзкую думку». Ніякі дзяржаўны муж, ніякі дыктатар (калі мова йдзе аб краінах з дыктатарскімі рэжымамі) ня мае такога ўплыву на грамадзкую думку, як здольны і — і падчас нясумленны — але прызнаны журналісты.

Возьмем, для прыкладу, амэрыканскага журналістага Ўолтэра Ліпмана. Ён ад пэўнага часу сядзіць на ўлюбленым коніку, а калі хто хоча, на жарабцы — савецка-кітайскім канфлікце. І вось цяпер ён цьвердзіць, што перад аблічам савецка-кітайскага канфлікту трэба як мага хутчэй весьці перамовы з Хрушчовам, пакуль ня позна. Чаму ня позна, і што будзе, калі будзе запозна — Ліпман не гаворыць, бо проста ня ведае, што сказаць. Ня гледзячы на тое, што пан Ліпман, часты паломнік у Маскву на размовы з Хрушчовам. Бачна пан Ліпман, або не зразумеў думкі свайго партнэра — Хрушчова, або тлумачыць яе тут шываарат-навыварат. Аднак Ліпман з упэўненасьцяй абвінавачвае... дэ Голя за тое, што ён супраціўляецца перамовам (чытай уступствам). Думку пана Ліпмана можна зьвесьці да аднаго сказу: «Паддавайцеся Хрушчову, бо будзе горш, калі давядзецца паддавацца Мао Цзэ Дуну».

Ня можам сказаць, што пан Ліпман — здраднік. Ён гаворыць паводля свайго пераканаготньня — гэта ягонае права, ён жыве і піша ў дэмакратычных умовах. Аднак, трэба сказаць, што такія паны Ліпманы дэзарыентуюць думку сусьветнай грамадзкасьці.

Думку Ліпмана скваліва падхапілі ангельскія газэты, а перш за ўсё спад сьцягу прэсавага магната Бівэрбрука. Газэты «Дэйлі экспрэс», «Сандэй экспрэс» або «Івнінг стандард» цьвердзяць тое самае, і зь іхных артыкулаў можна было-б зрабіць выснаў, што ўсе 31 савецкія ядзерныя выбухі былі ськіваваныя супраць... Молатава...

Чым-жа гэтыя пацыфістыя ад Ліпмана праз канцэрн Бівэрбрука да найменшага дапішчыка бівэрбрукаўскай прэсы тлумачаць свае пастуляты? Вось-жа даволі мутна і энігматычна: Хрушчоў выкінуў Сталіна з маўзалею — значыцца Хрушчоў антысталіністы, а прынамся дэмакрат. Хрушчоў канчальна ліквідуе сталінскую кліку — значыцца Хрушчоў антысталіністы. Значыцца «валі на рыжага, а рыжы зьвязе» — валі на Сталіна. Што Хрушчоў тварыў пры Сталіне — гэтыя пісакі ня ведаюць, або ведаць ня хочуць... Выгадны (але агідны прынцып) «пасьля нас няхай будзе навет патоп»... Подлы апартунізм, але — на шчасьце... хрушчоўскія вадародныя бомбы, нота Фінляндыі ды маскоўская камэдыя зьезду КПСС наўсуперак ліпманам, трэстам Бівэрбрука і капітулянтам выклікалі і іншую рэакцыю — гнеў і абурэньне супраць маскоўскіх верхаводаў.

Цяпер кажны лягічна думаючы чалавек, больш чымся калі, ставіць сабе пытаньне: «Дык што-ж гэта за неразьбярыха? Мы чулі, што Сталін — «карыфэй усіх навукаў», «найгеніяльнейшы правадыр», «бацька ўсіх народаў», «сонца камунізму», «найбліжэйшы паплечнік Леніна» і гэтак далей. А раптам уначы Сталіна выкідаюць з маўзалею». Раптам прававернымі «ленінцамі» застаюцца... Хрушчоў, які ніколі ня бачыў жывога Леніна, і Мікаян, які бачыў яго здалёк.

Тут зацытуем некалькі выказваньняў заходніх дзяржаўных мужоў аб апошняй акцыі Хрушчова.

Гі Моле — францускі сацыялісты, былы прэм'ер: «Няма сумлеву, што Расейцы хочуць паняволіць увесь сьвет і накінуць яму свой спосаб жыцьця. Апошнія савецкія атамныя выбухі паказалі ўвесь цынізм, зь якім Масква праводзіць сваю палітыку; адзін дзень яна змагаецца за мір і перамовы, калі ёй гэта выгаднае — іншы дзень піша ультыматумы й пагражае вайной. Гэтая сыстэма аж занадта прыгадвае Гітлера»...

Тут мусім прыгадаць, што аднаго зь лідэраў францускай сацыялістычнай партыі Гі Моле цяжка абвінаваціць у змове з капіталістымі...

У гэтым самым духу гаварыў і лёрд Эйвон, або лепш кажучы — Антоні Ідэн, былы міністар замежных справаў і прэм'ер Англіі. Фігура трагічная ў міжнароднай палітыцы, але яскравы доказ, як з Шаўлаў робяць Паўлаў. А зрабіў іх ня хто іншы, як Хрушчоў сваёй безадказнай авантурнай палітыкай.

Хрушчову не ставала 31 ядзернага выбуху, каб застрашыць вольны сьвет. Ён змайстраваў яшчэ ведамую ноту Фінляндыі, якая прыгадвае ноты Гітлера і Сталіна.

Калі Хрушчоў думаў, што гэта будзе супэрбомба, якой ён запалохае вольны сьвет, дык памыліўся. Гэтая ягоная нота — «супэр-обэр-бомба» выклікала яшчэ большае абурэньне ў сьвеце, бо гэта аналягічная нота, якую ў кастрычніку 1939 году паслаў Сталін і Молатаў ураду Фінляндыі. Значыцца, дух замарынаванага ў маўзалеі, сяньня выкінутага з маўзалею Сталіна жыве й красуецца, бо гэта — маскоўскі імпэрыялізм, савецкая экспансія.

І гэта выявілася пад акампаніямэнт савецкіх ядзерных выбухаў на XXII зьезьдзе КПСС у Маскве. І як-бы гэтага ні тлумачылі пан Ліпман і бівэрбрукаўскі прэсавы канцэрн — застаецца неаспрэчная праўда: праз прызму ноты фінскаму ўраду і савецкіх тэрмаядзерных выпрабаваньняў ніяк не апраўданых ніякай ваеннай тактыкай, вольны сьвет убачыў праўдзівае аблічча Масквы — зьвярынае аблічча імпэрыялістых і панявольнікаў.

Гэтыя хрушчоўскія экстравагантныі збудзілі пільнасьць заходняга сьвету. Гэта яшчэ ня ўсё, але ўжо — нешта. А гэтае «нешта» можа быць усім, калі ў міжчасе Хрушчоў якімсьці сьпевам сырэны не закалыша Захад...

# Сёе-тое

«Вочы ўсяго сьвету зьвернуты на Крэмль». — хваліліся бальшавіцкія газэты з нагоды скліканьня XXII-га Зьезду Камуністычнай партыі.

Няма дзіва. Людзі ня толькі ўгадывалі, але шматлікія й пэўнымі былі, што дзівы-дзівосы будуць там адбывацца. Ды шчэ й якія. Ці то дзе хто чуў і ці хто бачыў раней такое?

Мы тут не аб працэнтах выкананага й нявыкананага. На гэта вы, ясна, майстры. Самая найбольш цымусавая справа гэта із муміяй Сосо. Гэта на вачох усяго сьвету, казаў той, цягаецеся зь ім і ўсё яшчэ баіцеся, бо супакою не дае. Добра, кажаце, што забралі яго ад Ільіча ды закапалі ля крамлёўскай сьцяны побач Кірава й Арджанікідзэ, якіх памардаваў. Такім чынам выхвасталі ня толькі жывых антыпартыйцаў, але й самага асноўнага, найбольшага, паводля-ж вас злачынцу, хоць ужо даўно мёртвага. Што аб гэтым падумалі ці яшчэ будуць думаць міліёны людзей, што вырасьлі славячы Сталіна, што бачылі й Хрушчова, які першы завіхаўся каля Сталіна, памагаючы мардаваць і душыць?

Кажнаму ясна, што надыйдзе час, што й Ільіча выкінуць з маўзалею, ды й сам маўзалей узарвуць, як запраўдная воля для расейскага й іншых народаў прыйдзе. Але цяпер ня так. Бачылі вунь як той Чу-эн-ляй скора згробся ды ў Пэкінг папёр, калі ўзноў на Сосо, ды на Альбанію — самага найменшага «члена» сацыялістычнай гэтак званай сямейкі — навалілісся?

Пэўна-ж, Кітай і той Мао пакуль што слабісімо... Але часы мяняюцца й мяняюць.

Ліквідуюць жывых, рэгабілітуюць мёртвых, цягаюць трупоў. І гэта ўсё адбываецца ў дзяржаве, у якой за 20 год мае наступіць максымальны дабрабыт, прост-напраст рай на зямлі. Падумаць толькі! Часта даводзіцца шкадаваць, што ў гэту цікавую пару ня жыве Шэкспір...

☆

Калі ўжо асьмеліўся сам Мікіта, дык у хвасьце за ім папляліся й іншыя «неантыпартыйныя рэбяты». Нас Беларусаў перш за ўсё цікавіць, што-ж сказаў Мазураў. Цытуем за «Звяздой» за 21-га кастрычніка:

«Пасьля разгрому антыпартыйнай групы камуністы дапамаглі Цэнтральнаму Камітэту выкрыць да канца арганізатараў антыпартыйнай групы, у прыватнасьці Малянкова.

«Асабліва цяжкія і трагічныя вынікі дзейнасьці гэтага чалавека ў Беларускай партыйнай арганізацыі. Як вядома, у 1935—1936 гадах у партыі праходзіла праверка і абмен партыйных дакументаў. Малянкоў, працуючы ў той час у апараце ЦК, выкарыстаў гэту кампанію для збівання сумленных камуністаў і разам з Яжовым стварыў версію аб існаванні ў Беларусі разгалінаванага антысавецкага падполля, якое ўзначальвалі быццам бы партыйныя і савецкія кіраўнікі. На падставе гэтай версіі ў Кампартыі Беларусі пры абмене партыйных дакументаў была выключана з партыі палавіна ўсяго складу партыйнай арганізацыі.

«Калі старшыня Саўнаркома рэспублікі Галадзед на пленуме ЦК Кампартыі Беларусі паставіў пад сумненне вынікі праверкі і абмену партыйных дакументаў, Малянкоў выехаў у Беларусь і ўчыніў разгром кіруючых кадраў рэспублікі. У выніку яго дзейнасьці, у час яго знаходжання ў Беларусі, амаль увесь кіруючы склад рэспублікі, у тым ліку сакратары ЦК, старшыня Саўнаркома, наркомы, многія кіраўнікі мясцовых партыйных, савецкіх органаў і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі былі выключаны з партыі і многія з іх арыштаваны.

«Усе гэтыя ні ў чым невінаватыя людзі цяпер рэабілітаваны, прычым многія пасмяротна».

Гэтулькі Мазураў адносна партыйцаў. Адносна-ж таго, як вялікія й балючыя страты панёс сам працоўны беларускі народ, ані Мазураў, ані іншыя партыйныя бюракраты, служачыя Маскве, ні заікнуліся слоўцам. Ды й што ім народ. Яны там грызуцца між сабой за нарабаванае й хто ды каго далей рабаваць будзе: падзяліць ня могуць. Сягоньня Ма-

## ДА ЧЫТАЧОЎ

**Паважаныя Чытачы! У сувязі з тым, што XXII зьезд КПСС і праведзеная на ім далейшая «дэтранізацыя» Сталіна маюць беспасярэднае дачыненьне і да палажэньня на Беларусі, гэты нумар нашай газэты мы прысьвячаем пераважна гэтай тэме.**

**Публікуем тут выказваньні на гэтую тэму нашых сталых супрацоўнікаў, некаторыя камэнтары заходніх газэтаў і іншыя матарыялы.**

# Страляць у мэту!

Калі жаўнер страляе ў мішэнь, ён бярэ пэўны прыцэл. Аднак, першая куля звычайна трапляе ня ў самую сярэдзіну, а толькі зьлёгку чапляе аб'ект. І ўжо наступныя кулі б'юць дакладна ў нацэлены пункт.

На 20-тым зьезьдзе КПСС, на закрытым паседжаньні Хрушчоў узяў пад абстрэл даволі буйную мішэнь — нябожчыка Сталіна. Ён шмат гаварыў аб злачынных справах памерлага дыктатара, аб кульце асобы і ягоных цяжкіх выніках.

Аднак зачэпленая мішэнь ня была яшчэ цалкам паказаная народу. У савецкай прэсе першы стрэл прагучэў толькі водгаласам. Пачалі гаварыць пра культ асобы. Тымчасам у БССР, як і ў іншых савецкіх рэспубліках, пачалася рэгабілітацыя некаторых палітычных дзеячоў і пісьменьнікаў, якія сталіся ахвярамі сталінскага рэжыму. У савецкіх газэтах і часапісах зьявіліся артыкулы і ўспаміны пра Міхася Чарота, Цішку Гартнага, Максіма Гарэцкага, Уладыслава Галубка, Міхася Зарэцкага і іншых. У 1959 годзе вышаў з друку біяграфічны даведнік «Пісьменьнікі савецкай Беларусі». У гэтай кнізе зьмешчаныя таксама і біяграфіі каля паўсотні рэгабілітаваных пісьменьнікаў. Цікава, што ў біяграфіях апошніх ані слова ня прыгадваецца аб сталінскіх рэпрэсіях, як нідзе ня прыгадваецца і ў пэрыядычных выданьнях. Маўклівыя даты сьмерці або ў дачыненьні да жывых кароткая заўвага аб працяглым перапынку творчасьці выклікаюць адно здагадкі і патрабуюць тлумачэньня.

Чаму, напрыклад, у 1938 годзе так шмат памерла беларускіх пісьменьнікаў? Што гэта за эпідэмія была на творчых працаўнікоў? Чаму той ці іншы доўгі час ня пісаў? Савецкія журналістыя ўкладаюць адказ у адну нявыразную фразу: — Выпрабаваньне часу.

Але гэтага мала. Чытач хоча даведацца больш канкрэтна. Цяпер, калі 22-гі зьезд КПСС разгарнуў агульную змроч-

лянкоў, а заўтра ты. Якая народу розьніца?

✳

Часта поўную меру адданасьці чалавека й вартасьць ягонага ўкладу ў народную культурную скарбніцу вызначыш адно тады, калі прыгледзішся ня толькі творам, але й прыватнаму жыцьцю таго, што тварыў ды і ў якіх умовах тварыў.

Гэтыя думкі ўсплываюць міжволі, чытаючы абшырны артыкул Генадзя Кісялёва «Францішак Багушэвіч і Ян Карловіч» у сёлетнім 9-м нумары «Полымя».

У 80—90-я гады мінулага стагодзьдзя Ф. Багушэвіч жыве ў Вільні. Вось што падае аўтар: «Багушэвіч — сьціплы адвакат, прысяжны паверны ў правінцыяльнай (у параўнаньні з Варшавай) Вільні. З пункту гледжаньня буржуазнай маралі, ён павінен здавацца нават дзіваком і няўдачнікам.

Сапраўды, чалавек маючы такія здольнасьці, мог-бы, як кажуць, «заграбаць грошы», як тое рабілі многія іншыя адвакаты».

Кісялёў у зносе тлумачыць, як гэтыя «іншыя адвакаты заграбалі грошы»: Ты-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

ную панараму сталінскіх злачынстваў, трэба сьмела і адкрыта паставіць побач і жудасны вобраз акрываўленай Беларусі. Тут ахвярамі сталінскага тэрору сталіся ня толькі партыйныя кіраўнікі рэспублікі — Галадзед, Чарвякоў і іншыя, але і беларуская творчая інтэлігенцыя, беларускі працоўны народ. Аб гэтым трэба пісаць і гаварыць праўду.

У газэце «Советская Белоруссія» (з 22 га кастрычніка) паэт Мікола Хведаровіч робіць першую, хоць можа і ня зусім удалую спробу. Ён піша: «Кожны з нас, людзей старэйшага пакаленьня, памятае мінулае. Прыезд Маленкова ў Менск у 30-тыя гады прынёс шмат гора. Зусім ня з добрай мэтай ён наведаў нашу партыйную арганізацыю. Пасьля ягонага гэтак званага візыту яшчэ мацней зваліліся на галовы сумленных камуністых рэспублікі грубыя рэпрэсіі. Цяжкую страту мела і нашая пісьменьніцкая арганізацыя».

Далей Хведаровіч нападае з лаянкай на Молатава, Маленкова, Кагановіча, Булганіна, абзываючы іх карыерыстымі і дагматыкамі. Аб Сталіне і ягоных злачынствах, за выняткам культу асобы, — ані слова. Як мы бачым, Мікола Хведаровіч не пацэліў у сярэдзіну, ён трапіў толькі вакол мішэні. А ён сказаць мог-бы шмат, бо сам — ахвяра сталінізму — доўгі час пакутаваў на выгнаньні.

22-гі зьезд КПСС усенародна абвесьціў Сталіна забойцам. У асноўным — забойцам партыйных кіраўнікоў — ленінцаў. Ахвярам Сталіна ў Маскве ставіцца помнік.

Беларускі народ, які моцна пацярпеў за сталінскіх часоў, сяньня напэўна ўсьцешаны тым, што ў рэспубліцы зьнікае імя крывавага дыктатара з раённых местаў, вуліцаў, заводаў і інстытутаў.

Цяпер надышоў час сказаць усю праўду аб Сталіне. І ня толькі аб Сталіне! Зьнішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі ў Беларусі, прымусовая калектывізацыя сялян, масавае раскулачваньне, сьцягваньне хутароў у пасёлкі, высылка ў канцэнтрацыйныя лягеры і расстрэлы невінаватых людзей — гэты даўгі ланцуг злачынстваў нельга схаваць, нельга прысыпаць магільным пяском.

У 30-тых гадох у масах беларускага народу цішком вымаўлялася трапная прыказка: «Ходзіць Сталін у ботах па крывавых балотах». Гэты афарызм цяпер павінен увайсьці ў зборнікі народнага фальклёру. І ня толькі гэты, але і шмат іншых. Выкрываць масавага злачынцу трэба шырэй. Міт «Усемагутнага і мудрага» разбураны. Як кажа паэт Хведаровіч, цяпер «дыхаць вальней». Значыцца трэба гаварыць ува ўвесь голас. Трэба гаварыць адкрыта аб рэгабілітацыі палітычных дзеячоў і пісьменьнікаў БССР. Даволі замаўчваць факты і, як было раней, прыкрывацца такімі цьмянымі фразамі як «перапынак у творчасьці» і «выпрабаваньне часу». Трэба сказаць пра ўсё. І ня толькі пра вынішчэньне беларускае інтэлігенцыі, але і асноўнай масы — сялянства. Народ дамагаецца свабоднага слова.

Трэба браць прыцэл правільна, каб кулі траплялі ў сярэдзіну мішэні — у чорнае кола, ня толькі ў самога Сталіна, але і ў тых ягоных былых паплечнікаў, якія яго сяньня часткова асуджаюць.

К. Р.

# Ліст з Бэрліну

З Заходняга Бэрліну можна лепш як дзе-небудзь назіраць крызіс савецкага камунізму. Перашкодзіць гэтаму ня могуць ні высокія бэтонныя сьцены, ні танкі.

Карэспандэнты краінаў вольнага сьвету зь вялікай спагадай назіраюць за штораз большым прыгнётам насельніцтва ў савецкай зоне Нямеччыны. У сучасны мамэнт цяжар гэтага прыгнёту ляжыць ў першую чаргу на інтэлігенцыі. Варта прыгадаць, што ад 1958 году на Захад з савецкай зоны Нямеччыны ўцякло паўтары тысячы навукоўцаў, сярод іх — 295 навуковых працаўнікоў у галіне мэдыцыны, 287 навукоўцаў-прыродазнаўцаў, 225 філёзафаў і філёлягаў, 127 фізыкаў, 103 працаўнікі вышэйшых навуковых установаў у галіне сельскай гаспадаркі, 29 навукоўцаў у галіне права й эканоміі, і 22 музыкалёгі. Рэшта — гэта экспэрты ў іншых галінах навукі. Толькі ў першай палавіне 1961 году савецкую зону Нямеччыны пакінула 165 навукоўцаў. У ліпені ўцяклі 52 навукоўцы. Ад пачатку жнівеня гэтага году яшчэ 200 навукоўцаў пакінула савецкую зону Нямеччыны й знайшло прыпынак на Захадзе. Між імі знаходзіцца найбольшы марксысцкі філёзаф нашых часоў, прафэсар Ляйпцыскага унівэрсытэту Эрнст Блёх. Гэты прафэсар з сусьветнай славай на працягу даўгіх гадоў намагаўся тлумачыць заганы бальшавіцкай дыктатуры, як зьявы спалучаныя з ростам. Аднак цяпер ён усьведаміў сабе, што камуністычная ідэялёгія ў сваёй цяперашняй форме ня мае нічога супольнага ні з людзкой годнасьцяй, ні з навукай; што яна, наадварот, зьяўляецца найбольш жахлівым панаваньнем тэрору, якое здушвае ўсякі прагрэс.

Пачынаючы ад 13-га жнівеня, разам з узростам ульбрыхтаўскай кітайскай сьцяны на міжзанальных і міжсектаральных граніцах акупаванай савецкай часткі Нямеччыны, скончылася і гэтак званая часовая адліга. Гэтая адліга, якая пачалася ў канцы мінулага году, была з палёгкай сустрэтая інтэлігенцыяй савецкай зоны Нямеччыны. Гэтым шляхам партыя намагалася спыніць масавыя ўцёкі лекароў, інжынераў і прафэсараў з вышэйшых навучальных установаў. Аднак цяпер партыйныя апаратчыкі гэтак званай Сацыялістычнай Адзінай Партыі Нямеччыны варочаюцца да старых мэтадаў. Яны зноў заціскаюць у зялезным кулаку інтэлігенцыю, цяпер цалкам ізаляваную ад вонкавага сьвету. На думку шмат-якіх заходніх назіральнікаў, цяпер гэтыя камуністычныя апаратчыкі хочуць помсьціцца за тое, што на працягу некаторага часу яны былі прымушаныя «адпусьціць гайку» у дачыненьні да навукоўцаў, мастакоў, лекароў, інжынераў і гэтак далей, баючыся іхных уцёкаў на Захад. Новы, жорсткі курс у савецкай зоне Нямеччыны, пачынаюць ужо адчуваць і работнікі. Ад таго часу, калі працоўныя страцілі магчымасьць пакідаць савецкую зону Нямеччыны шляхам уцёкаў на Захад, ува ўсіх галінах прамысловасьці бязупынна павышаюцца працоўныя нормы. Заходняэўрапэйскія экспэрты разглядаюць гэтыя мерапрыемствы, скіраваныя на павышэньне прадукцыі ў савецкай зоне Нямеччыны шляхам радыкальнага павышэньня працоўных нормаў, як апошнюю спробу пераадолець глыбокі эканамічны крызіс. Гэты крызіс у савецкай зоне Нямеччыны не зьяўляецца крызісам збыту тавараў, як гэта было ў заходніх краінах у 20 гадох, але крызісам забясьпячэньня насельніцтва. Забясьпячэньне насельніцтва ў савецкай зоне Нямеччыны зьнізілася да такой ступені, якую можна параўнаць з найгоршым ваенным пэрыядам.

Эканамічны інстытут заходнянямецкіх прафсаюзаў апублікаваў нядаўна агляд цяперашняга палажэньня народнай гаспадаркі ў савецкай зоне. У гэтым аглядзе гаворыцца: «Саветы ўвесь час цьвердзілі, што няма, фактычна, такіх крызісаў, якіх-бы яны не маглі ўнікнуць пры дапамозе мэтадаў плянавай гаспадаркі. Цяпер яны стаяць перад фактам цяжкога крызісу у адным зь іхных найбольш эканамічна разьвітых сатэлітаў».

**П. О.**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Сталінізм 30-тых гадоў у Беларусі

Пастанова 22-га зьезду КПСС выселіць Сталіна з маўзалею мае бесспасярэднае дачыненьне і да нашае гісторыі. Сталіну бо партыя стварыла месца паклону ня толькі пад сьценамі Крамля. Сталінская грабніца ня менш цяжкім каменем ляжыць таксама на тэй безьлічы кнігаў, брашураў і часапісаў, што становяць сабой гісторыю падсавецкае Беларусі. У гэтай трагічнай гісторыі ёсьць змрочны пэрыяд чыстак трыццатых гадоў — пэрыяд узаконенага партыйнага бандытызму, самаўладзтва, пагромаў беларускае культуры і руйнаваньня эканамічнага жыцьця. Ці ў партыі знойдзецца духу пайсьці далей, чымся перавоз забальзамаванае муміі з аднаго месца ў іншае ды скасаваньне імя Сталіна ў геаграфічных назовах? Ці будзе зломленая цэнзурная пячаць над людзкой і нацыянальнай трагедыяй на Беларусі ў трыццатых гадох? Ці дазволяць тым, што выжылі, расказаць бяз страху сваім дзецям, чым запраўды была партыя ў трыццатыя гады?

Пачынаем сэрыю артыкулаў, прысьвечаных тэме сталінізму на Беларусі ў трыццатых гадох. Артыкулы базуюцца на апублікаваных у 1953 годзе ў Нью Ёрку асабістых успамінах Крушынскага аднаго з былых працаўнікоў беларускай савецкай адміністрацыі.

У сваіх успамінах Крушынскі, перад тым, як расказаць пра масавыя арышты ў трыццатых гадох, дае абраз культурных дасягненьняў савецкае Беларусі да 30-га году.

Цэнтрам беларускае дзейнасьці, піша Крушынскі, быў Наркамасьветы Беларусі. Вось кароткае схематычнае апісаньне важнейшых мерапрыемстваў, праведзеных да 1930-га году. Наркамасьветы зрабіў захады для пераводу навучаньня ўва ўсіх школах у беларускую мову. Гэта было цяжкое заданьне, бо школы ня мелі падручнікаў у роднай мове, — асабліва адчувалася нястача хрэстаматыяў для чытаньня ў пачаткавай школе. Аднак спрактыкаваныя старыя пэдагогі ў параўнальна кароткі тэрмін паўкладалі чытанкі для пачатковых школаў на літаратурных прыкладах беларускіх пісьменьнікаў, а ведамы беларускі мовавед Язэп Лёсік апрацаваў школьную граматыку роднае мовы.

У часе вайны друкарні Беларусі ў бальшыні былі разбураныя. Апрача гэтага яны не надаваліся для масавага друкаваньня падручнікаў. Дзеля гэтага падручнікі былі надрукаваныя ў Нямеччыне і часткова ў Вільні пад кіравецтвам сябры калегіі Наркамасьветы, ведамага пісьменьніка Зьмітра Жылуновіча. Ён-жа за тым арганізаваў у Менску друкарні і выдавецкую справу. Пры сучаснай тэхніцы праведзеная праца выдасца маленькай справай, але тады, у часе розруху, гэта было вялікім дасягненьнем.

Наркамасьветы прысьвяціў асаблівую ўвагу арганізаваньню Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. За кароткі тэрмін была дабраная салідная група ведамых прафэсароў. Сярод іх былі і беларускія навукоўцы: паважаны ўсімі Язэп Лёсік, матэматык Круталевіч, літаратуравед Пятуховіч, гісторык і крытык мастацтва Шчакаціхін ды іншыя. Усе яны былі ў 30-х гадох паарыштоўваныя і павысыланыя. Выдатную ролю ў арганізаваньні ўнівэрсытэту адыграў рэктар прафэсар Пічэта. Ня будучы Беларусам, ён актыўна і добрасумленна ўмацоўваў унівэрсытэт. У 1930-м годзе праф. Пічэта быў арыштаваны ў сувязі із створанай тады ў ГПУ справай гэтак званага «Саюзу Вызваленьня Беларусі» (або ў скароце — СВБ). У «справе СВБ» паводля «пляну» (або як тады казалі, паводля «казкі» ГПУ) Пічэту прыпісвалася роля сувязнога паміж СВБ і твораным тым-жа ГПУ ў Расеі «Саюзам вызваленьня Расеі», на чале якога плянавалася паставіць акадэміка Платонава, таксама гісторыка, як і Пічэта.

Пасьля правалу гэтае «справы» СВБ, гэта значыць пасьля замаху на сваё жыцьцё Янкі Купалы і самагубства прафэсара Ігнатоўскага, Пічэта быў высланы, як і іншыя, адбываць сваю ссылку ў Вятцы.

Усебаковая культурная дзейнасьць дала магутны штуршок для ўцягненьня ў яе шырокіх масаў, асабліва моладзі. Моладзь была пранятая ідэяй адраджэньня культуры свайго народу. Лік паэтаў, пісьменьнікаў, крытыкаў, навуковых працаўнікоў у гісторыі й геаграфіі, дасьледаваньні прыродных багацьцяў ды вывучэньні рознага роду праблемаў Беларусі непазнавальна вырас. Беларуская Акадэмія Навук, Унівэрсытэт, Сельскагаспадарчая Акадэмія зырка сачылі прагрэс, выклікалі і заўсёды падтрымвалі сьмелую ініцыятыву маладых наватараў у літаратуры, мастацтве і ў дасьледнікаў працы. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі не адмаўлялася друкаваць працы маладых паэтаў і навукоўцаў, што падавалі надзеі на далейшы рост. Уважлівае стаўленьне да маладых кадраў з боку нацыянальных дзеячоў натхняла іх на працу й адцягвала ад часта цяжкіх бытавых абставінаў. Шырокага размаху набрала краяведная праца. Гэта быў улюблёны занятак сельскае інтэлігенцыі, асабліва настаўніцкай. У тыя часы ў краяведнай працы ня было яшчэ бюракратычнага шаблёну і казённага пляну. Яна наладжвалася паводля мясцовае ініцыятывы і нахілаў ды на аснове вольнага выбару прадмету вывучэньня. У Менску выходзіў спэцыяльны краяведны часапіс «Наш Край» — цяпер забароненны.

У галіне тэатру асаблівую заслугу трэба прызнаць Беларускаму Вандроўнаму Тэатру, арганізаванаму і кіраванаму энтузіястым Уладыславам Галубком. Галубок быў усебакова таленавітым чалавекам. Ён напісаў шмат п'есаў зь беларускага народнага жыцьця, што доўга ня зыходзілі із сцэны. Яны былі зьнятыя з рэпэртуару, калі пачаўся паўсюдны разгром усяго нацыянальнага ў Беларусі. Уладыслаў Галубок, які заслужана першы ў Беларусі атрымаў тытул народнага артыстага, у 1937-ым годзе быў арыштаваны НКВД.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае дзейнасьць беларускіх кампазытараў, што правялі збор нязвычайна каштоўнага фальклёрнага матарыялу. Нястомным зьбіральнікам народнае песьні быў кампазытар Тэраўскі. Ягоная вельмі карысная праца неаднаразова перапынялася ГПУ і ўрэшце Тэраўскі быў арыштаваны й высланы, а зборнік народных песьняў ягонае апрацоўкі сканфіскаваны і забароненны для ўжытку. Гэткая-ж доля спаткала і іншага зьбіральніка фальклёру, Грыневіча, які пакінуў заходнюю Беларусь і перайшоў на савецкую тэрыторыю ў надзеі знайсьці тут шырокае поле для дзеяньня.

Усё, што рабілася ў савецкай Беларусі нацыянальнымі дзеячамі да 30-х гадоў мела вялікі ўплыў на Беларусаў і асабліва на беларускую моладзь, у заходняй Беларусі, што знаходзілася пад Польшчай. У БССР працавалі нацыянальныя тэатры, расьцьвітала літаратура і паэзія. Савецкі друк, што пранікаў у заходнюю Беларусь, радыё і падпольныя камуністычныя арганізацыі шырака прапагандавалі дзейнасьць у БССР. Савецкае консульства ў Варшаве праз намесьніка консуля Ульянава, што быў родам зь Менску, шчодра фінансавала далярамі

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Здані мінуўшчыны

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

«. . . Ленін і Сталін — ягоны верны паплечнік, кіравалі партыяй на шляхох да кастрычніцкай перамогі 1917 году. Падчас грамадзянскай вайны Сталін зьяўляўся ўсюды, дзе хісталася вага вайны, і дзе-б ён ні зьявіўся — ўсюды перамогу атрымоўвала армія рэвалюцыі . . .»

Тут яшчэ прыгадаем, што Хрушчоў палымяна дзякаваў «мудраму, геніяльнаму вучыцелю» — Сталіну за тое, што ён зьнішчыў «агідных чарвякоў — Тухачэўскага, Убарэвіча і іншых (1937 г.).

I вось цяпер у сьвятле выказваньняў на XXII зьезьдзе КПСС і вынікаў гэтага зьезду хочацца паставіць, або лепей паўтарыць ведамае пытаньне: «Божа, Божа, каму-ж ты даў уладу? . . » Але пытаньне без патэтычнасьці: што-ж гэта — цынічны нумар з начнога кабарэту апошняй катэгорыі, ці выказваньні дзяржаўных мужоў, якія прыпадкова могуць мець уплыў на лёсы сьвету?

О, Кліё, улюбёная дачка Мнэмазыны, муза гісторыі! Адвярніся й не глядзі ! . .

Як мы бачым з гэтых працэсаў 30-ых гадоў, Сталін адным стрэлам клаў двух зайцоў: зьнішчаў сваіх канкурэнтаў і заадно ліквідаваў эліту нерасейскіх народаў, якія апынуліся ў канглямэраце народаў — СССР.

Вернемся да прыкладу Галадзеда й Шаранговіча. Ведаем, што яны былі камуністыя. Ня маем ніякіх доказаў, што мелі сувязь з польскім генэральным штабам. Дый навошта-ж нам гэта, калі найлепшым доказам, што так ня было, зьяўляецца прамова Кірылы Мазурава на XXII зьезьдзе КПСС, дзе ён абвінавачваў Маленкова за тое, што апошні разграміў беларускае партыйнае кіраўніцтва з Галадзедам начале. Галадзеда рэгабілітавалі. Але перад гэтым яго зьліквідавалі . . .

Галадзед і Шаранговіч былі камуністымі, аднак, як бачым з вышэйпададзеных цытатаў, яны былі й Беларусамі. А гэта было ўжо злачынствам у вачох маскоўскіх верхаводаў і акупантаў.

Сяньня ў хрушчоўскай праграме КПСС мы бачым тэорыю аб зьліцьці ўсіх нацыяў у вадну — савецкую (што гэта за гібрыд?), аб аднэй мове, якую ў будучыні будзе ўжываць гэты гібрыд — «савецкая нацыя». «Словянскія-ль ручьі сольются в русском море» ? . .

Хрушчоў — кемны вучань Сталіна, пратэжэ Кагановіча, з тактычных меркаваньняў праводзіць «дэсталінізацыю». Хрушчоў забыўся пра сваю прысягу, якую ён даваў Сталіну: «прысягаю, што ні на крок не адступлю ад тэй лініі, якая праводзіцца нашай ленінска-сталінскай партыяй, нашым вялікім Сталінам» . . .

А, фактычна, ці ён забыўся? Ён толькі ашэльмаваў свайго «геніяльнага» настаўніка, але застаўся на ягонай лініі, калі мова йдзе аб свабодзе людзей і народаў. Інакш кажучы — здані мінулага і сяньня нас трывожаць . . .

**пс**

---

«Паважныя памылкі былі дапушчаныя нашымі гісторыкамі. Пры насьвятленьні гісторыі камуністычнай партыі Азэрбайджану і рэвалюцыйнага руху ў Азэрбайджане мелі месца праявы нацыянальнай абмежаванасьці, дапушчаліся выкрыўленьні гістарычнай рэчаіснасьці, ідэялізацыя некаторых зьяваў мінуўшчыны, неаб'ектыўнасьць ў насьвятленьні ролі асобных адзінак у гісторыі». («Бакінскій Рабочій», 17. 2. 1960).

Рэзалюцыя гэтага зьезду, у сваю чаргу, гаварыла:

«Зьезд зьвяртае ўвагу ЦК КП Азэрбайджану і ўсіх партыйных арганізацыяў на неабходнасьць і далей стала трымаць у цэнтры ўвагі пытаньні выхаваньня працоўных рэспублікі ў духу непарушнай прыязьні народаў і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. У вусных і друкаваных выступленьнях . . . неабходна на яскравых фактах з жыцьця Азэрбайджану паказваць трыюмф ленінскай нацыянальнай палітыкі, вялізарную ролю братнай дапамогі вялікага расейскага народу . . . Ідэялягічная работа павінна быць скіраваная сваім вайстрыём супраць праяваў буржуазнай ідэялёгіі, супраць адсталых звычаяў і нораваў, часам накіданых пад маркай ‚нацыянальных традыцыяў'» (тамсама, 19. 2. 1960 г.).

Адзначаныя мерапрыемствы ў галіне ліквідацыі «буржуазнага нацыяналізму» ў гістарыяграфіі Азэрбайджану дакладна таксама мелі месца і ў Армэніі. Дамо й тут слова савецкім крыніцам:

«Разьвіцьцю гістарычнай навукі ў Савецкай Армэніі спрыялі навуковыя сэсіі й дыскусіі ў справе асобных праблемаў, на якіх выступалі з дакладамі навукоўцы Савецкай Армэніі й іншых братніх рэспублікаў, а перш за ўсё гісторыкі Масквы й Ленінграду. ЦК КП Армэніі зрабіў шэраг эфэктоўных захадаў, накіраваных на забясьпечаньне далейшага пасьпяховага разьвіцьця гістарычнай навукі ў рэспубліцы, адзначыўшы паважныя недахопы, якія мелі месца ў савецкай армянскай гістарыяграфіі. Зь іх трэба адзначыць такія: пэўная недаацэна клясавага змаганьня, сьціраньне сацыяльных супярэчнасьцяў і ідэялізацыя мінуўшчыны . . . («Вопросы історіі», № 7, 1960).

Разгляданы вышэй базіс, на якім будзе створаная шматтомная «Гісторыя СССР», быў-бы ня поўным, калі абмінуць некаторыя іншыя мерапрыемствы Масквы — захады ў кірунку русыфікацыі й дэнацыяналізацыі гісторыі нерасейскіх народаў. Разгляданыя вышэй настаўленьні й мерапрыемствы зьяўляюцца быццам толькі ідэялягічнай асновай для далейшых практычных дзеяньняў. Аднвчасова-ж была стасаваная і грубая паліцыйная сіла, пакліканая прысьпешыць рэалізацыю гэтага мерапрыемства адміністрацыйным шляхам.

Тут, аднак, мы спынімся на некаторых практычных пачынах Масквы для разьвязаньня гэтай праблемы акадэмічным шляхам. Да апошніх належыць, напрыклад, спроба савецкай гістарычнай навукі ўвесьці ў гісторыю нерасейскіх народаў СССР канцэпцыю аб гэтак званай «прагрэсыўнасьці» іхнага далучэньня да Расеі. Прайшоўшы сваё разьвіцьцё ад формулы «абсалютнага зла» гістарычнай школы Пакроўскага праз формулу «найменшага зла» канца 1930 гадоў і формулу «абсалютнага дабра» пачатку 1940 гадоў, у сучасны мамэнт гэтае цалкам суб'ектыўнае паняцьце імкнуцца ператварыць у няўхільны закон гісторыі. Прыгаданая канцэпцыя ня толькі што разглядае цяпер ўсе расейскія заваёвы і прыгнёт як дабрадзейства для нерасейскх народаў, але мае яшчэ тэндэнцыю бачыць у гэтым гвалце праяву «гістарычнай заканамернасьці». А таму, маўляў, нерасейскія народы не павінны жаліцца на свой гістарычны лёс, а зьмірыцца з гэтым «законам» гісторыі.

Лёгіка такога выснаву зусім нескладаная: дзяржава (імпэрыя), хоць і зьяўляецца «машынай дзеля падтрыманьня панаваньня аднае клясы над іншай» — усё-ж гэта прадукт «заканамернага» разьвіцьця грамадзтва на дадзеным этапе ягонай гісторыі і, значыцца, зьмяшчае ў сабе таксама тэндэнцыю да пашырэньня. Расеі было «суджана» вытрываць гэтае выпрабаваньне гісторыі, і вытрываць яго ня толькі з прычыны прыгаданай — часова няўсьведамлянай — «гістарычнай заканамернасьці». Яна вытрывала гэты працэс, маўляў, дзякуючы гістарычнай накіраванасьці расейскага народу, дзякуючы таму, што расейскі народ выявіўся на вышыні разьвязваць агульналюдзкія заданьні. I вось, маўляў, урэшце-рэштаў, навукова пазнаўшы законы грамадзкага разьвіцьця, у сучасны мамэнт расейскі народ ачоліў паступовы рух усяго чалавецтва да прагрэсу, да агульнага шчасьця . . .

У кажным выпадку гісторыкі нацыянальных рэспублікаў былі закліканыя сканцэнтраваць усю ўвагу на выяўленьне «прагрэсыўнага значэньня» далучэньня нерасейскіх народаў да Расеі, а таксама на выяўленьне «прагрэсыўных вынікаў» гэтага далучэньня. З мэтай прысьпешаньня гэтага пачыну былі скліканыя нават адмысловыя канфэрэнцыі гісторыкаў Масквы й гісторыкаў нацыянальных рэспублікаў, на якіх пазьней узгодніваліся агульныя канцэпцыі ў суадпаведнасьці з дырэктывамі Масквы. Такая канфэрэнцыя адбылася, напрыклад, у Ташкенце ў травені 1959 году. Яна была скліканая Аддзелам гістарычных навукаў Акадэміі навук СССР і была прысьвечаная пытаньню аб «прагрэсыўным значэньні далучэньня Сярэдняй Азіі да Расеі». Канфэрэнцыя — што, між іншага, адлюстравалася таксама і ў прынятай ёй рэзалюцыі — абвесьціла гэтае далучэньне Сярэдняй Азіі да Расеі глыбока прагрэсыўным зьявішчам для ўсіх сярэдня-азіяцкіх народаў («Вопросы Історіі», № 8, 1959). У выніку сярэдня-азіяцкім гісторыкам не заставалася іншага выйсьця, як толькі пачаць ажыцьцяўленьне гэтых пастановаў.

Дакладна такая-ж канфэрэнцыя ці сэсія нядаўна адбылася таксама ў Таліне. Праўда, яна была быццам-бы скліканая зь ініцыятывы Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Эстонскай ССР і была прысьвечаная толькі «гістарычным сувязям народаў Прыбалтыкі і Расеі», аднак ейныя заданьні нічым ня розьніліся ад заданьняў Ташкенцкай канфэрэнцыі. У працы гэтай сэсіі ўзялі ўдзел як гісторыкі ўсіх прыбалтыцкіх рэспублікаў, так і гісторыкі Акадэміі навук СССР, галоўным чынам ейных ленінградзкіх гістарычных аддзелаў. Праца сэсіі праходзіла ў духу выразна вызначанага кірунку — сьцьверджаньня таго-ж «прагрэсыўнага значэньня» далучэньня Прыбалтыкі да Расеі («Гісторыя СССР», № 2, 1961).

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## Удзел Беларусаў у Інтэрнацыянальным Дні

Сьвяткаваньне 38 Інтэрнацыянальнага Дня ў Інтэрнацыянальным Інстытуце ў Лёс Анджэлес трывала два дні: сыботу й нядзелю 7 й 8 кастрычніка. У сьвяткаваньні ўзяло ўдзел 40 нацыянальнасьцяў.. У гэтым годзе ў ім узяла таксама ўдзел цэлая група прадстаўнікоў паўдзённа-амэрыканскіх краінаў.

Праграма Інтэрнацыянальнага Дня складалася з выставы, якая ілюстравала быт і культуру паасобных нацыянальнасьцяў, а таксама з канцэртаў нацыянальных песьняў і танцаў.

Беларуская выстава выглядала гэтым разам значна большай і прыгажэйшай за папярэднія. Павялічаная яна была цэлай сьцяной, удала завешанай пяцьмі прыгожымі беларускімі дзяружкамі. На іхным фоне вісеў груповы партрэт беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. У выставовым вакне былі разьмешчаныя тканыя ручнікі, старанна вышытыя рукамі сэрвэткі і падушкі, сярод якіх быў зьмешчаны партрэт Янкі Купалы ў рэзьбянай рамцы. Апрача таго, прыгожа вышытыя ручнікі, настольнік, падушачкі, вязаныя ўзорамі рукавіцы і рэзьбяны альбом былі разьмешчаныя ў спэцыяльнай шкляной шафцы. На беларускім стэндзе былі паказаныя таксама беларускія паясы, беларускія кнігі ў аформленых нацыянальнымі вузорамі вокладках і іншыя экспанаты.

Варта тут адзначыць, што ўсе паказаныя на выстаўцы дзяружкі былі атрыманыя зь Беларусі.

Асаблівую ўвагу прыцягваў да сябе мадэль беларускага сялянскага дому з панадворкам, выкананы сп. В. Клокам. Двор быў застаўлены фігуркамі хатняй жывёлы і людзей. Цэласьць выкананьня сьветчыла, што майстра паклаў ня мала працы пры выкананьні гэтага мадэлю.

Нацыянальны характар выстаўкі падкрэсьліваў наш гэрб «Пагоня», вывешаны на відным месцы.

У мастацкай праграме выступалі чатыры пары ў нацыянальнай вопратцы з народнымі танцамі «Лявоніхай» і «Крыжачком», пад акампаніямэнт на акардыёне кампазытара А. Мяленцява. З салёвымі нумарамі выступіў сп. В. Пашчанка, які выканаў дзьве песьні: «Гусі», словы У. Клішэвіча, музыка А. Мяленцева, і народную — Пашто мне жаніцца», пад акампаніямэнт на піяніна камп. Мяленцева. Трэба сказаць, што публіка не шкадавала воплескаў.

У нядзельным выступе сп-чня Нона Мяленцева зрабіла мілую неспадзеўку салёвым балетным выкананьнем «Лявоніхі». Гэта быў дадатак, не прадбачаны ў праграме.

У параўнаньні з выступам мінулага году, танцавальная група выконвала танцы яшчэ больш дасканала, ня гледзячы на кароткую падрыхтоўку.

Канфэрэнсье праграмы сп. К. Вайцяхоўскі — паангельску даваў кароткія інфармацыі аб Беларусах і кароткія характэрыстыкі беларускіх народных танцаў і песьняў. Ягоныя тлумачаньні гумарыстычнага зьместу «Лявоніхі» і «Пашто мне жаніцца» выклікалі выбухі сьмеху ў слухачоў.

Усім удзельнікам і супрацоўнікам пры наладжаньні выстаўкі, як і мастацкай праграмы належыцца вялікая падзяка.

Сёлетняя беларуская выстаўка была наладжаная стараньнямі БАЗА і БККА, а мастацкая праграма — Фальклёрнай групай.

**Н.**



Фрагмэнт з Выстаўкі ў Лёс Анджэлес

## Заходняя прэса аб XXII зьезьдзе КПСС

Вынікі XXII зьезду КПСС далей абмяркоўваюцца прэсай усяго сьвету. Камэнтуючы вынікі зьезду, бальшыня заходніх газэтаў, у тым ліку шмат-якія газэты заходніх левых партыяў — адзначаюць, што адкрытае выкрыцьцё Сталіна зьяўляецца адначасова выкрыцьцём заганнасьці самога камуністычнага ладу.

Аўстрыйская сацыялістычная газэта «Арбайтэр Цайтунг» піша: «Пасьля XX зьезду камуністыя ўсяго сьвету ўважалі, што хоць Сталін і зрабіў шмат памылак, але іншыя кіраўнікі КПСС былі сумленнымі людзьмі. Цяпер-жа яны даведаліся, што на тым самым XX зьезьдзе, дзе быў выкрыты «вялікі і мудры» Сталін, Хрушчова акружаў цэлы шэраг злачынцаў». У канцы газэта піша: «З гэтага сумленныя людзі сярод камуністых павінны былі-б зрабіць адпаведны высноў і пакінуць гэтую партыю «вялікай нясумленнасьці».

Орган італьянскай сацыял-дэмакратычнай партыі «Джустыцыя» адзначае, што з вынікаў XXII зьезду можна зрабіць наступныя высновы: «Савецкі Саюз — гэта не краіна сацыялізму. У іншым выпадку ў Савецкім Саюзе ня могбы ўзьнікнуць і на працягу шмат гадоў пратрымацца рэжым прыгнёту, перасьледаў, арыштаў, пры якім было забіта так шмат сапраўдных сацыялістых.» Газэта далей піша: «Дэмакратычныя рэформы, шырокае народнае прадстаўніцтва і канстытуцыйныя гарантыі, абяцаныя на апошнім зьезьдзе — абмежаваныя, нятрывалыя і недастатковыя. Яны не даюць падставаў спадзявацца, што савецкае кіраўніцтва сапраўды здольнае перадолець мэтады сталінскай эпохі».

Газэта аўстрыйскай народнай партыі «Дас Кляйнэ Фольксблят» піша: «Выкрыцьцё злачынстваў былых партыйных кіраўнікоў не мяняе таго факту, што камуністычная сыстэма **як такая** спрыяе такім злачынствам. У камуністычным сьвеце панаваў і далей пануе «закон джунгляў» — трыюмф сілы над правам. Усё гэта нам даўно было ведама. Тое, што самі кіраўнікі КПСС у гэтым адкрыта прызналіся — толькі падкрэсьлівае заганнасьць камуністычнага ладу».

**юс**

### СТАЛІНІЗМ 30-ЫХ ГАДОЎ У БЕЛАРУСІ

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

антыпольскую прапаганду, пракамуністычны друк і розныя арганізацыі заходняе Беларусі. У выніку гэтага сотні моладзі зь вялікай для сябе рызыкай і небясьпекай пераходзілі нелегальна праз мяжу ў БССР ў надзеі трапіць у сьветлыя аўдыторыі Беларускага Ўнівэрсытэту. Інтэлігенцыя пераходзіла мяжу, каб знайсьці працу і выкарыстаць свае веды. І колькі-ж было пасьля, па 30-м годзе, горкіх расчараваньняў, цяжкога бязвыходнага суму і жалю па разьбітых надзеях і маладым жыцьці! Паддаўшыся захапленьню, моладзь даверліва імкнула на злыдна-абманлівы савецкі агенчык. Хто мог падумаць тады, што вялікая творчая праца будзе бязьлітасна патаптаная, а тысячы Беларусаў пагінуць у падвалах НКВД і ў канцэнтрацыйных лягерах!

# У Канадзе

### НА МІЖНАРОДНЫМ ФЭСЬЦЕ ДЗЯЦЕЙ

Асацыяцыя Злучаных Нацыяў у Канадзе праз ейны Антарыйскі Камітэт ЗН Міжнароднага Дапамаговага Дзіцячага Фонду, які, між іншага, утрымоўвае малочныя станцыі ў Азіі, вачныя клінікі на Фармозе, апякуецца дзецьмі ў Конга, і г. д., запрасіў беларускую калёнію Таронта прыбыць на вялікі міжнародны фэст дзяцей у Таронта, які адбыўся пад лёзунгам: «Дзеці — дзецям» у аўдыторыі Ітана ў сыботу 23-га верасьня. Тут можна было пабачыць строі ўсіх пяцёх кантынэнтаў, школьныя ўбраньні, цацкі розных нацыяў як і падручнікі ў розных мовах. Уся праграма перадавалася праз тэлевізію, а зроблены фільм будзе паказвацца па бібліятэках, школах і клюбах. Усе падараваныя нацыянальныя строі й цацкі будуць перададзеныя ў музэй, а падручнікі пяройдуць на ўласнасьць Канадзкай Асацыяцыі Адукацыі. Падручнікі й цацкі былі выстаўленыя ад 16 да 28 кастрычніка ў Гёрлс энд Бойс Лайбрэры ў Таронта пры вул. Сьв. Джорджа. У сувязі з гэтым, прадстаўнік Г. У. ЗБК сп. А. Маркевіч перадаў Камітэту беларускі лемантар і «Беларускія Казкі».

### БЕЛАРУСКІЯ ЗАБАВЫ

Сёлетні сэзон маёвак быў (крыху ранавата) закончаны 20-га жнівеня (такіх было пяць!). Праўда, трэба да гэтага шчэ дадаць тры Ашаўскай Самапомачы. Цяпер настаў сэзон беларускіх вечарынаў кажнага другога тыдня пры БР-ГЦ, які быў адкрыты ў сыботу 23-га верасьня. Запускная вечарына мае ладзіцца 25.-га лістапада, і на Новы Год плянуецца вялікі баль.

### НА ПРЫНЯЦЬЦІ ДЛЯ ПІРСАНА

Як і на прыняцьце Фэдэральнага Міністра Грамадзянства й Іміграцыі Місіс Элен Фэйрклу (адбылося 29. 5. 61), так і на прыняцьце лідэра Лібэральнай Партыі Канады Лестэра Пірсана, што рабіла Нямецкая Гандлёвая й Прафэсыйная Асацыяцыя ў панядзелак 9-га кастрычніка (Тэнксгівінг Дэй) у нямецкім клюбе «Гармоні» ў Таронта, быў запрошаны й прадстаўлены публічна, як Беларус, прадстаўнік Галоўнае управы ЗБК у васобе сп. А. Маркевіча. Вечар прайшоў надзвычай удала. Вялікі госьць зрабіў у сваёй прамове агляд сучасных падзеяў, абвінавачваючы Хрушчова у шантажах на палітычнай арэне.

### АБ БЕЛАРУСАХ У АЛЬМАНАХУ

Дзякуючы кантакту рэфэрэнта вонкавых сувязяў ЗБК, у 1962 годзе ў пяршыню «Кэнэдіен Дірэкторы энд Алманак», які выдаецца штогоду на працягу звыш ста гадоў, падасьць інфармацыі аб БАПЦаркве й аб ЗБК у Канадзе, і гэтым выправіць недакладнасьці аб Беларусах, у асаблівасьці аб праваслаўных.

### ДАЛЕЙШЫЯ ДАРУНКІ

Апошнім часам прадстаўнік ЗБК перадаў далейшыя 2 дарункі для Таронцкай Унівэрсытэцкай бібліятэкі ў форме кніжкі «Вянок» М. Багдановіча й каляндара «Нівы», за што атрымана лістоўная падзяка ад галоўнага бібліятэкара м-ра Блэкбёрна.

### ВЫСТАВА БЕЛАРУСКІХ КНІЖАК І ЧАСАПІСАЎ

Дзякуючы стараньням ГУ ЗБК у днёх 13-18-га лістапада сёлета адбудзецца выстава Беларускіх кніжак, часапісаў і газэтаў пры Таронцкай Публічнай Бібліятэцы, рог вул. Лісгар і Квін Вэст, на што атрыманы лістоўны дазвол ад Дырэкцыі Бібліятэкаў места Таронта. Заклікаем усіх Беларусаў падтрымаць і наведваць.

### ПРЫНАЛЕЖНАСЬЦЬ ДА СЛАВІСТЫХ І КАМІТЭТУ СТАГОДЗЬДЗЯ

Ад лета гэтага году Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе (прадстаўнік А Маркевіч) атрымала сяброўства ў Канадзкай Асацыяцыі Славістых, а таксама належыць да Камітэту Сьвяткаваньня Канадзкай Дзяржаўнасьці, 1867—1967, пад назовам: «Кэнэдіен Сэнчэнэры Каўнсіл» мэтай якога зьяўляецца плянаваньне адзначэньня стагодзьдзя узьнікненьня Канадзкай Нацыі.

### ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Пры Міжнародным Інстытуце Мэтрапалітальнага Таронта, у сярэдзіне студзеня наступнага году заплянавана правесьці Тыдзень Беларускай Культуры, які будзе складацца з мастацкай самадзейнасьці, выставы, лектуры, мэню й іншых атракцыяў. Гэтта заклікаецца ўсё беларускае грамадзтва прыняць актыўны ўдзел на згаданай падзеі й дапамагчы усім магчымым — як наведваньнем, так і пазычэньнем экспанатаў ручной працы й г. д. для выставы.

### ПАСЕДЖАНЬНЕ СЭКТАРУ РАДЫ БНР У КАНАДЗЕ

Другое з чаргі ў гэтым годзе паседжаньне Сэктару Рады БНР у Канадзе адбылося ў сыботу 28-га кастрычніка ўвечары ў будынку БР-ГЦ, на якім былі абмяркаваны цэлы шэраг палітычна-грамадзкіх справаў. У выніку перавыбараў кіраўніцтва быў толькі пераабраны Старшыня Сэктару; рэшта згадзілася застацца на наступную кадэнцыю. Наступнае паседжаньне мае быць скліканым праз 2 месяцы.

### БАЛЬ КАСЫ САМАПОМАЧЫ

Штогоду трэйці чацьвер кастрычніка ёсьць міжнародным сьвятам крэдытавых касаў, які досьць паважна тут у Канадзе сьвяткуецца (гэты год вітаў усе К. К. сам Прэм'ер Канады Дж. Дыфэнбэйкэр). У сувязі з гэтым дырэкцыя Беларускай Касы Самапомачы пастанавіла таксама адзначыць згаданы дзень у сыботу 21-га кастрычніка ў залі БР-ГЦ вялікім балем, які прайшоў у мілай атмасфэры. Як неспадзеўкі пры дзьвярох былі: кажная пятая жанчына атрымала па шакалядзе, а дзесяты мужчына — па пачцы папярос. Пазьней на ўступныя бялеты былі разыйграныя фанты. Таксама была праведзеная й лятарэя. Тут-жа сярод перапынку сп. Я. Чорны, скарбнік, атрымаў невялікую ўзнагароду за ягоную ахвярную актыўную працу ў Касе на працягу колькіх гадоў існаваньня нашае Беларускае Касы Самапомачы.

Пастаноўлена перадаць увесь прыбытак зь вечара на дапамогу моладзі ў Нямеччыне.

### НА СЬВЯЦЕ Ў КАЗАКОЎ

Сьвята Пакроваў асабліва адзначаюць Казакі ўсяго вольнага сьвету. Казакі Таронта й ваколіцаў сёлетняе сьвята прыгожа адзначылі, пры ўдзеле запрошаных гасьцей, ў сыботу 14-га кастрычніка у залі БР-ГЦ у Таронта. Галоўную Ўправу ЗБК рэпрэзэнтавалі сп. сп. Ганько й Г. Барановіч.

### НА ВУЧОБЕ Ў АТАВЕ

Сябры Галоўнай Управы ЗБК, сябры Касы Самапомачы як і парафіяне складаюць свае пажаданьні посьпеху ў вучобе на бібліятэкара пры Атаўскім унівэрсытэце сп. А. Грыцуку, а ягонай жонцы Ользе жадаем дачакацца хуткага пасьпяховага павароту з дыплёмам у руках, ейнага мужа — бо-ж 8 месяцаў не такі ўжо малы адрэзак часу. Дарэчы, ён і нам усім таксама патрэбны ў нашай працы.

**Таронтавец**

# Сёе-тое

(Заканчэньне з 1-ай бачыны)

повы для таго часу вобраз адвакатадрапежніка паказала Э. Ажэшка ў «Нізінах» (1883 г.) Людвіг Капроўскі ня спыняецца ні перад чым, калі пахне нажывай. Гэтак-жа робяць і яго калегі: «Так, адзін угаварыў нейкага дробнамаянтковага шляхціца пачаць судовую справу з суседам з-за шматка зямлі, які каштуе сто рублёў, і, на працягу некалькіх год выцісьнуўшы з яго суму ў дзесяць разоў большую, ня толькі прайграў справу, але ў дадатак спагнаў са свайго кліента ганарар, прадаўшы з таргоў яго скаціну і коней.

«Другі абышоў удаву дробнага памешчыка і, вядучы на працягу шэрагу год розныя яе справы, сам паціху набыў за бесцань невялікую, але вельмі добрую сядзібу, якая ёй належала, і так слаўна ўсё выштукаваў, што не пасьпела баба і азірнуцца, як апынулася з чатырма дзецьмі проста на вуліцы».

«Багушэвіч разам з сям'ёй жыве ў нястачы. Вольны час, замест таго, каб думаць пра хлеб надзённы, ён аддае такому малапаважнаму, на думку многіх, занятку, як пісаньне вершаў на беларускай мове. Тым больш што занятак гэты не абяцаў ніякага прыбытку».

Так і ўявеце сабе Багушэвіча. У хаце нястача, ад жонкі пэўна даводзілася цярпець прыкрасьці, суседзі цэлы час на сьмех падымаюць, а ён піша нейкія там нікому непатрэбныя ды яшчэ й на нейкай «мужыцкай мове» вершыкі. Ці можаце ўявіць, якога моцнага духу мусіў быць гэты бацька беларуската адраджэньня? І ці льга адгадаць як-бы пайшло беларускае адраджэньне, калі-б гэты «сьціплы адвакат» ня пісаў вершыкі, а «заграбаў грошы» накшталт іншых?

Здавалася-б, што гэты сьветлы Багушэвічаў прыклад мусіў-бы паказаць дарогу шматлікім беларусам у вольным сьвеце, што замнога часу прысьвячаюць на заграбаньне грошы, хоць мо й ня так, як ілюструе Арэшчыха, а замала часу іншым нацыянальным справам. Не, барані Божа, каб усе браліся пісаць вершы. Вунь-жа ўсялякай работы на рэлігійным, грамадзкім і нацыянальна-вызвольным полі хоць заваліся.

**Міхась Козыр**

## Сьв. Памяці Пётра Русак



20 кастрычніка г. г. у Рычмонд, штат Мэйн, неспадзявана памёр Пётра Русак.

Сьв. памяці Пётра Русак радзіўся ў 1893 г. у сялянскай сям'і на Наваградчыне; там наведваў школу, ды і працаваў — аж да Другой сусьветнай вайны. Сьв. памяці Пётра Русак належаў да тэй перадавой часткі беларускага грамадзтва, што здолела, наколькі гэта было магчыма ў тыя часы, здабыць асьвету. Нажаль, магчымасьці далейшае асьветы, як і працы ў сваёй спэцыяльнасьці, для маладой беларускай інтэлігенцыі былі вельмі абмежаваныя ў Заходняй Беларусі. Сьв. памяці Пётра Русак гэтым не зьнеахвочваўся. Ён застаўся жыць і працаваць у сваёй вёсцы. Ён належаў да таго пазытыўнага актыву нашага грамадзтва, што спакойнай, адданай працай спрычыняўся да маральнага і матарыяльнага ажыўленьня беларускай вёскі. Сьв. памяці Пётра Русак — пачынальнік і адданы працаўнік сеткі каапэратываў, актыўны ўдзельнік у беларускім культурна-грамадзкім жыцьці, чулы і гатовы да дапамогі кожнаму, хто знаходзіўся ў бядзе.

Падзеі Другой сусьветнай вайны завялі сьв. памяці Пётру Русака, як і шмат каго з нас, у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Тут яму давялося затрымацца на працы ў некалькіх месцах, пакуль — здабыўшы пэнсію — не пасяліўся на стала ў Мэйне.

Сьв. памяці Пётра Русак сваім спакойным характарам і ўласьцівым яму пагодным настроем лёгка здабываў сабе сяброў і прыяцеляў: таму ня дзіва, што на разьвітаньне зь ім прыйшла ня толькі ўся мясцовая беларуская калёнія, але прыехала і шмат ягоных знаёмых з розных штатаў ЗША.

Сям'і сьв. памяці Пётры Русака складаем шчырае спачуваньне. Няхай яму будзе вечны супакой.

**Ф. Р.**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**


### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon,** Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).







Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.